# БРЫЛЕЎСКІ летапіс

№ 10 (92)
красавік
2009 г.

ІНФАРМАЦЫЙНА - ГРАМАДСКІ БЮЛЕТЭНЬ

Выдаецца з мая 2006 г.


## Бусел над вёскай



Дружба
с.3



Госці
с.4-5



Рудэя
с.6



Імгненні
с.8

# З Днём нараджэння!

## У красавіку нарадзіліся:

3 - Яўген Сяргеевіч Рамашкевіч
4 - Вадзім Мікалаевіч Трышкін
5 - Ніна Іванаўна Патапава
6 - Раіса Васільеўна Кірылава
7 - Ніна Пракопаўна Рубанава
7 - Аляксандр Васільевіч Чубукоў
8 - Галіна Анатольеўна Смалякова
11 - Надзея Дзмітрыеўна Халмова
12 - Надзея Міхайлаўна Зайцава
15 - Уладзімір Яфімавіч Мяшкоў
19 - Яўгенія Сямёнаўна Грушэцкая
19 - Марыя Рыгораўна Селюкова
19 - Алена Уладзіміраўна Бязручкіна
20 - Надзея Фамінічна Рамашкевіч
23 - Мікалай Фёдаравіч Ржэўцаў
24 - Ірына Міхайлаўна Пшанічная
24 - Галіна Васільеўна Сцепчанкава
24 - Аліна Мікалаеўна Карнеева
29 - Сяргей Уладзіміравіч Шкрэдаў



# З Юбілеем!

12 красавіка
Віктар Паўлавіч ШЫБАКОЎ
адзначае 65-годдзе



11 красавіка
Мікалай Аляксандравіч КАРНЕЕЎ
адзначае 45-годдзе

14 красавіка
Тацццяна Мікалаеўна ВАРАБ'ЁВА
адзначае 40 - годдзе

## Праваслаўныя хрысціяне адзначаюць у красавіку:

**7 красавіка**



Благавешчанне Прасвятой Багародзіцы

**12 красавіка**



Вербная нядзеля

**19 красавіка**




Пасха Хрыстова

# Дружба – Freundschaft

4 красавіка 2009 года Брылі ў чарговы раз сустракалі дэлегацыю з заходненямецкага горада Фрэдена.

Сяброўства з гэтым горадам пачалося ў брылеўцаў у 1994 годзе, і на працягу 10 гадоў мясцовыя школьнікі ездзілі туды на аздараўленне. Зараз такіх паездак няма, але нямецкія сябры кожную вясну напярэдадні святкавання Вялікдня прыязджаюць да нас са сваімі падарункамі.

Як і заўсёды, чуўся энергічны голас Уладзіміра Аляксандравіча Таборкі, вядомага магілёўскага перакладчыка, які, дарэчы, з'яўляецца "хросным бацькам" фрэдэнска-брылеўскага сяброўства. Уважлівыя немцы вялікай грамадой завіталі ў госці да мясцовых школьнікаў, дзе усё добразычліва агледзелі. Ля сталоўкі адбылася агульная сустрэча з мясцовымі жыхарамі. Тут жа працавалі прадстаўнікі сродкаў масавай інфармацыі - Алесь Буракоў з радыёстанцыі "Нямецкая хваля" і Вадзім Аршынскі з тэлеканалу "Белсат". Дарэчы, Вадзім Генадзьевіч Аршынскі па матчынай лініі паходзіць з нашых Брылёў -- тут калісьці стаяў хутар ягонага дзеда Ігната Ермалаевіча Мяшкова. Вадзім вельмі жадае даведацца аб сваіх брылеўскіх каранях, і мы са свайго боку паабяцалі удакладніць гэтыя гістарычныя акалічнасці...

У веснавое неба ўзлятала сяброўская гамонка, і здалося, што менавіта дружба зрабіла гэты красавіцкі дзень больш цёплым і сонечным.

***Мікола ЯЦКОЎ.***



Пасля візіту ў школу-сад



Шпацыр па брылеўскай вуліцы

Агульны збор ля сталоўкі





У.А.Таборка гутарыць з Т.Т.Жураўковай і В.М.Мяшковай



Узніклі нейкія пытанні...



Тэлежурналіст В.Г.Аршынскі

# Добры "Лянок"

У Магілёўскім раённым Цэнтры культуры плённа працуе перасоўны аўтаклуб, які ўзначальвае Марта Сяргееўна Сідарава. Гэтая ўстанова на колах імкнецца дабрацца да самых аддаленых вёсак, каб паказаць жыхарам набыткі самадзейнай мастацкай творчасці. 4 красавіка 2009 года аўтаклуб прывёз ў нашы Брылі артыстычны "дэсант" з вёскі Грыбаны -- ансамбль народнай песні "Лянок" і іншых самадзейных артыстаў Грыбаноўскага СДК. Аб важнасці мерапрыемства сведчыла прысутнасць у складзе дэлегацыі аднаго з кіраўнікоў Цэнтра культуры, куратара ўсходняй зоны культурнага абслугоўвання насельніцтва раёна Кацярыны Леанідаўны Эрпарт.

Было прыемна, калі артысты спачатку наведалі помнік загінуўшым вяскоўцам і аддалі ім даніну павагі. А потым на сцэне Брылеўскага СДК загучала мілагучная музыка, завіхурыліся агнявыя танцы, пачулася пранікнёнае вершаванае беларускае слова. Некалькі хвілін ажыўлення прынёс конкурс, удзел у якім прынялі некаторыя з гледачоў самага рознага ўзросту -- хто гучней выгукне "Я люблю Беларусь!". А напрыканцы, калі загучала песня "Судьба", наш Мікола Яцкоў падхапіў свой баян і падтрымаў гэты спеў. На развітанне слова ўдзячнасці прамовіла старшыня селькама в.Брылі Тамара Васільеўна Максімчыкава, а бібліятэкар Брылеўскай бібліятэкі Ала Міхайлаўна Яцкова ўручыла гасцям памятныя падарункі. І прагучала ўзаемнае пажаданне і надалей сябраваць вёскамі.



*М.С.Сідарава (у першым радзе першая справа) і К.Л.Эрпарт (у другім радзе першая справа) разам з самадзейнымі артыстамі ля помніка загінуўшым вяскоўцам.*

**А.С.**





Спявае Мікалай Яфімаў







Удзельніцы брылеўскага ансамбля "Любава" Любоў Цымлякова, Галіна Жукава і Любоў Шастакова апладысментамі падтрымліваюць сваіх калег па песеннаму мастацтву.





Выступленне гарманіста Фёдара Куцецкага і майстра ігры на бубне Аляксандра Сербаева спадабалася літаральна ўсім





Удзельнікі конкурсу "Я люблю Беларусь!" Ніла Іванаўна Майсцер і Леанід Андрэевіч Баранаў




А перамогу ў гэтым конкурсе атрымаў Алег Малдаванаў.



Гучыць фінальная песня.



А "на пасашок" – усе разам!



Падарункі ад Брылеўскага СДК

# Работнік культуры





Пакуль артысты спяваюць – можна і "Брылеўскі летапіс" пачытаць...



Сяргей Іванавіч Каржоў, па-першае, высокапрафесійны шафёр. А падругое, лічыць сябе работнікам культуры. І не безпадстаўна. Бо ўжо доўга працуе ў аддзеле культуры Магілёўскага райвыканкама, а апошнім часам з'яўляецца вадзіцелем аўтаклуба. Гэта работа дае магчымасць Сяргею Іванавічу шмат дзе бываць і шмат што цікавага бачыць. І яму заўсёды бывае прыемна, калі сінюю аўтаклубаўскую "Газэль" з радасцю сустракаюць у самых розных кутках Магілёўскага раёна.

Вось і 4 красавіка давялося везці ў Брылі вялікую канцэртную брыгаду з Грыбаноў. І пакуль артысты спявалі і танцавалі, можна было крыху адпачыць і падрыхтавацца да вячэрняга дзяжурства -- аб гэтым з аддзелам культуры дамаўляецца аддзел унутраных спраў. Бо субота і нядзеля -- самыя напружаныя дні як для культуры, так і для міліцыі...

А мы жадаем гэтаму цудоўнаму чалавеку роўных дарог ды добрых інспектараў ДАІ.

М.Я.

# Бусел вярнуўся!..

Пачатак красавіка прынёс добрую вестку -- да нас вярнуўся бусел! А значыць, прыйшла сапраўдная вясна. Менавіта толькі да гэтай птушкі ў нашым народзе склаліся вельмі шаноўныя адносіны. І аб вытоках гэтай народнай пашаны можна даведацца, разгарнуўшы, напрыклад, старонкі газеты "Звязда" ад 19 сакавіка 2009 года:

"Бусел - велічная, грацыёзная птушка, адна з самых любімых і шануемых славянамі. Лічыцца, што гэтыя птушкі разумеюць чалавечую мову, што яны мудрыя і справядлівыя, чулыя -- могуць плакаць сапраўднымі слязьмі, і наладжваюць вяселлі, быццам людзі. Сямейныя пары буслоў непадзельныя. Часцей за ўсё, калі адзін з буслоў гіне, другі таксама ахвяруе сваім жыццём. У адным з паданняў ідзе гаворка аб тым, што ў бусла ператварылі чалавека, якому было даручана аднесці і кінуць у мора мех з гадамі (змеямі, яшчаркамі, жабамі), але з-за сваёй празмернай цікаўнасці чалавек не паслухаўся загаду і зазірнуў у мех. Гады распаўзліся па зямлі. У пакаранне Бог ператварыў чалавека ў бусла і загадаў збіраць гадаў і выратоўваць ад іх людзей. Ад сораму ў бусла пачырванелі ногі і дзюба, якія засталіся чырвонымі і па сёння.

- Буслы лічыліся ахоўнікамі сямейнага шчасця і дабрабыту. Гэта птушка па ўяўленнях нашых продкаў прыносіць у хаты бацькоўскае шчасце -- дзяцей. Менавіта таму, што буслы першымі абвяшчаюць надыход вясны -- нясуць вестку аб абуджэнні прыроды, з прыняццем хрысціянства прылёт буслоў пачалі звязваць з Благавешчаннем Марыі.
- Лічылася, што калі бусел падчас вяселля сядзе на комін, у маладых хутка народзіцца дзіця.
- Калі бусел сніцца жанчыне -- да цяжарнасці ці нараджэння сына.
- Бусел -- ахоўнік хаты ад бяды і нястачы. І калі на даху хаты пасяліўся бусел, гэта прадказвала багацце і дабрабыт у сям'і.
- Павер'і аб буслах, якія прыносяць поспех і шчасце ў хату, натхнялі гаспадароў дапамагаць буслам у будаўніцтве іх гнёздаў: для гэтага на даху замацоўвалі старое кола. Але існавала правіла -- гэта павінен быў зрабіць нежанаты хлопец з дапамогай незамужняй дзяўчыны. У такім выпадку буслы абавязкова паселяцца на гэтым даху, а хлопец з дзяўчынай хутка возьмуць шлюб.
- Калі гаспадыня хаты была бяздзетнай, на падворак запрашалі буслоў -- з надзеяй, што за добрае стаўленне да гэтай свяшчэннай птушкі Бог падаруе ім дзіця.
- Калі бусел са сваёй сям'ёй сам пакінуў сваё гняздо, гэта значыць, што ў хаце можа адбыцца штосьці дрэннае: пажар, удар маланкі і г.д.
- Пакрыўдзіць бусла, зруйнаваць яго гняздо было цяжкім грахом.
- Убачыць ранняй вясной першага бусла ў палёце прадказвала цудоўнае здароўе на ўвесь год, добры ўраджай, а для незамужняй дзяўчыны -- вяселле ў гэтым годзе. А калі ўвесну ўпершыню ўбачыце бусла, які сядзіць на гняздзе, гэта не прадказвае нічога добрага.
- Убачыць пару буслоў -- да вяселля і лёгкіх родаў".

Вось такім быў бусел у вачах нашых продкаў. А мы, падхапіўшы гэту памяць, перададзім яе сваім нашчадкам -- каб глядзелі яны, хвалюючыся, на свабодны і ўзнёслы палёт гэтай птушкі, якая заўсёды прыносіць мір і спакой на нашу беларускую зямлю.

*Ала ЯЦКОВА,*
*бібліятэкар Брылеўскай сельскай бібліятэкі.*



На здымку: бусел на лузе ля ракі Рудзя каля вёскі Качурына. 1 красавіка 2009 г. *Фота М.Яцкова.*




## Павадак



З-за таго, што мінулая зіма была больш снежнай, чым у апошнія гады, больш значным стаўся і павадак на рацэ Рудзя ля вёскі Брылі.




8.04.2009 г.

## НЕ СЖИГАЙТЕ СУХУЮ ТРАВУ!

Целая деревня чуть не сгорела из-за выжигания сухой травы в Клическом районе. Пожары произошли сразу на двух приусадебных участках. К прибытию спасателей огнём было охвачено 2 жилых дома и 6 хозяйственных построек. По сухой траве огонь грозил распространиться ещё на 2 дома.

Только за одни сутки в республике произошло 170 возгораний травы. Есть жертвы. В Малоритском районе пожарные не успели спасти пенсионера, который наводил порядок возле своего дома. Окрестности Могилёва -- не исключение. Трава горит и днём, и ночью. Травяные пожары губят всё живое, поднимая в воздух соли тяжёлых металов, свинец, кадмий, цинк, хром, которые выбрасываются транспортом и осели на землю.




№ 14, 2009 г.

## ЗНАТЬ ГЕРОЕВ В ЛИЦО

Управление образования Гомельского облисполкома направило письма в районные отделы народного образования с предложением ознакомить школьников с фамилиями чиновников. Заучивание должностей без лицезрения оригинала -- дело безнадёжное, поэтому в школах вывесили стенды с фотографиями районном, областной и республиканской "вертикали".



Цытата

Ёсць галовы настолькі хлуслівыя, што нават ісціна, выказаная імі, становіцца хлуснёй"

*Пётр Чаадаеў (1794-1856), рускі публіцыст і мысліцель.*




5.02.2009 г.



## НА ЛЁГКІЯ РОДЫ

- Каб пасадзейнічаць нармальнаму і лёгкаму працяканню родаў, неабходна было максімальна адкрыць навакольнае асяроддзе. У сувязі з гэтым трэба было развязаць усе вузялкі на адзенні парадзіхі, распусціць яе валасы. У хаце адмыкалі замкі, адчынялі ўсе дзверы.
- Калі ж здараліся цяжкія роды, то сваякі парадзіхі ішлі да царквы і прасілі святара адчыніць "царскія вароты" і тым самым паспрыяць прыходу дзіцяці ў наш свет. Гэтыя абрадавыя дзеянні сфакусіраваны ў наступнай замове: "*Ішоў сам Гасподзь з нябеса, згубіў залатыя ключы з-за пояса. Мацер Божая ішла, залатыя ключы знайшла. Замкі, атапрыцеся, царскія вароты, атварыцеся, паясы, развяжыцеся, раба божая ( імя ), з дзіцёнкам разлучыцеся*".
- Цяжарную жанчыну як маглі агароджвалі ад сустрэч з хворымі людзьмі, з тымі, хто меў розныя фізічныя і псіхічныя калецтвы. Лічылася непажаданым, каб на дарозе адна цяжарная сустракалася з іншай цяжарнай.
- Калі прыходзіў час нарадзіць, пра гэта стараліся нікому не гаварыць, таму што верылі: людзі будуць перажываць і тым самым толькі ўскладняць сітуацыю.
- Каб даць палёгку парадзіхе, побач з ёю запальвалі грамнічную свечку, а яе абціралі "хрышчэнскай" вадой.
- Каб дзіця любіла бацьку, на парадзіху маглі апрануць бацькаву сарочку або кашулю.
- Моцным абярэгам пардзіхі і дзіцяці лічыўся нацельны крыж, які жанчына не здымала нават у момант родаў.
- Існавала шмат замоў, якія імкнуліся прамаўляць адразу ж пасля родаў, каб у парадзіхі не было пасляродавых праблем. І абавязкова гучалі словы падзякі: "*Не загубіла, а душу на гэты свет пусціла*".

# Брылеўская бібліятэка інфармуе...






№ 15, 2009 г.

## ГАГАРИНЫМ РИСКНУЛИ, А ТИТОВА ПРИБЕРЕГЛИ...



Юрий Гагарин и Герман Титов

...В группе подготовки первых космонавтов чётко наметились два лидера -- Гагарин и Титов. По всем показателям -- тренировкам, выполнениям упражнений - Титов выглядел сильнее Гагарина. Были и другие моменты, которые показывали: Титов пусть и ненамного, но более подготовлен для полёта в космос. Но именно это и сделало космонавтом № 1 Юрия Гагарина. Дело в том, что параллельно уже шла подготовка к следующему космическому полёту, который должен был продлиться целые сутки. Соответственно это -- намного сложнее. Поэтому Гагарина решено было послать в первый полёт -- как в более простой, а Титова сберечь для второго.




8.04.2009 г.



Унитаз со сливным бачком был сконструирован в XVI веке для английской королевы Елизаветы I. Его изобретатель, сэр Джон Харрингтон, дал своему детищу поэтическое наименование «Аякс». По одним данным, прибор стали звать унитазом по названию первой фирмы, которая наладила их серийное производство в начале XX века.


*Старонку надрыхтавала бібліятэкар Брылеўскай сельскай бібліятэкі Ала ЯЦКОВА*


Прозвішча падпісчыка

# Імгненні



Толькі зараз і пачаўся самы сакавік для Аліка Данілавіча Алданава з вёскі Качурына. *1 красавіка 2009 г.*



Вясна адазвалася радасным пчаліным гулам у нетрах вулляў, што ля дома Аўдзея Баранава ў вёсцы Качурына. *1 красавіка 2009 г.*



Фотаздымкі Міколы ЯЦКОВА



Куры з вуліцы Першамайскай у Брылях вельмі паважаюць правілы дарожнага руху: пад кіраўніцтвам пеўня дарогу пераходзяць разам і хутка. *1 красавіка 2009 г.*



Гэта наша тэрыторыя!.. *4 красавіка 2009 г.*



Цэбар для соку на гэтай брылеўскай бярозе сёлета вырашылі пачапіць значна ніжэй. Бо вунь тая, верхняя, бутэлька вісіць там ажно з сакавіка 2006 года, -- відаць, тады не дацягнуліся да тых вышынь. Цікава -- што за хімічная формула пялёскаецца ў той ёмістасці?.. *1 красавіка 2009 г.*

Інфармацыйна-грамадскі бюлетэнь для жыхароў Брылеўскага рэгіёна і наваколля.
Распаўсюджваецца бясплатна.
Наклад 100 асобнікаў.

Адрас для карэспандэнцыі:
213107 Магілёўскі раён п/а Брылі
тэл. маб. +375293732886
e-mail: brylibelarus@gmail.com
© "Брылеўскі летапіс", 2009

Заснавальнік і рэдактар Мікола ЯЦКОЎ